На стар. 3 „КАНЕЦ ВРАНГЕЛЯ“

„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI – CENA 60 gr.

# Ніва

№ 42 (86) БЕЛАСТОК, 20 КАСТРЫЧНІКА 1957 г. ГОД II

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ВОСЕНЬ



Прыгожая белавежская аколіца і прыгожыя дзяўчаты якія тут жывуць. Задуменны позірк у белавежскай прыгажуні гаворыць, што яе думкі зусім не пры кветках, якія яна вырасціла і якія цярпець ад холаду асенніх начэй. Не страшыць яе надыходзячая восень. У яе на душы вясна і пэўна расцвітаюць не такія кветкі.





*Дажджы, дажджы, дажджы! Манатоннае шэрае неба зацягнутае хмарамі. Нават старыя людзі не памятаюць такой восені, каб у гэтую пору, разлілася так рака. У Белавежы гавораць — «Не будзе зімы, як не разальецца рака». Няўжо гэтая разлітая рака — азнака ранняй зімы.*

*— «А нам што да гэтага» — гагочуць гусі і качкі.*

*— «Нарэшце маем выгоду»*

Ад даўжэйшага часу ў нашай краіне адбываюцца спрэчкі на тэму: як палепшыць гаспадарчае становішча і адкуль узяць на гэта сродкі.

Хіба ўсе згодны з тым, што не малую ролю адыгрываюць тут дэвізы.

Ёсць дзяржавы, напрыклад Швейцарыя ці Італія, дзе сапраўднай крыніцай дэвізаў з'яўляецца заграранічная турыстыка. Не малыя магчымасці развіцця заграрнічнай турыстыкі ёсць і ў нас, на Беласточчыне.

Яшчэ да 1939 года Белавежскую пушчу наведвала штогод каля 50 тысяч турыстаў, у тым ліку каля 1.500 замежных. Пасля вызвалення, ад 1944 года, турыстычны рух рэзка паменшыўся. Белавежу ведалі толькі некаторыя вучоныя. Вельмі рэдка заязджаў сюды турыст.

У мінулым годзе нешта змянілася на лепшае. Белавежу наведвае штораз больш замежных турыстаў і вучоных.

Турысты, як турысты. Днём цікавяцца пушчай, звярамі. А вечарам? Вядома, хацелася-б лепш з'есці, пагуляць і наогул мець магчымасць культурна правесці час.

А ці ёсць у Белавежы такія магчымасці? Нажаль няма. Таму Прэзідыум ГРН, як гаспадар Белавежы, апошнім часам склікаў сесію ГРН прысвечаную справам развіцця Белавежы і дастасавання яе да патрэб турыстаў краіны і заграніцы.

Сесія зацвярдзіла перспектывічны план развіцця Белавежы і таксама прыняла адпаведную пастанову.

План і пастанова вельмі цікавыя. Напрыклад: прадугледжваюць яны пабудову навейшай гасцініцы, разбудову станцыі Белавежа - Палац і дастасаванне яе да руху турыстычных паяздоў, пабудову прыстані на рацэ Нараўцы і дастасаванне гэтай ракі да воднай турыстыкі па пушчы.

Прадугледжваецца таксама генеральную змену аблічча Белавежы: пралажыць ходнікі на вуліцах там, дзе іх дагэтуль няма і зрабіць кабельнае электрычнае асвятленне вуліц, пабудаваць навейшы ўнівермаг, перабудаваць кіно, залажыць скверкі і г. д.

Пастанова змяшчае многа цікавых і вельмі слушных праектаў. Вядома, каб ажыццявіць іх, патрэбныя не малыя фінансавыя сродкі. Аднак, калі мы хочам з заграрнічнай турыстыкі чэрпаць так патрэбныя нам дэвізы — то трэба стварыць да гэтага адпаведныя ўмовы ў Белавежы.

Пастанова Прэзідыума ГРН у Белавежы будзе абмяркоўвана на Прэзідыуме ВРН у Беластоку. Нам здаецца, што справа турыстыкі на Беласточчыне павінна знайсці мейсца на адной з сесіі ВРН, а і паслы Беласточчыны не павінны прайсці каля яе абыякава

(в і а).



*Граб скідае лісцё. Ды чаму яму не скідаць, калі ім апякуецца такі асілак дуб.*

*Нават і ў асеннія дажджы Белавежа прыгожая. Сведчыць аб гэтым факт, што на белавежскіх вуліцах заўжды стаяць доўгія вярэніцы турыстычных аўтобусаў.*



*Не, гэта не лермантаўскія — «тры гордыя пальмы..» Гэта тры белавежскія красуні на ўскраі пушчы.*

*— «А чаму нам і не быць гордымі. Мы-ж расцем у Белавежскай пушчы. Праўда, не вельмі прыемна настаўляць першымі лоб халодным асеннім вятрам. Ды нам гэта не першыня, ужо 200 лет стаім вось так».*



*— «Што мне абходзіць, што лес ужо не зялёны» — думае лось — «У мяне адраслі пышныя рогі і прыбавілася сілы. Трэба вышэй насіць галаву, каб знайсці сваю палавіну. Заўжды ўдвое весялей у доўгія асеннія вечары».*



*Гэта слаўныя белавежскія дубы ў парку. «Мы пішчэ не толькі не скідаем лісця, але нават і не жоўкнем. Уперш скінем жалуды, а тады падумаем, як скінуць лісцё».*

Тэкст і фота

М. ТАРАСЕВІЧ



Ніна Гайлевіч

# Першы раз у Швецыі

**(Ад нашага карэспандэнта)**

Калі я выязджала з Варшавы думала сабе — што цікавага кінецца мне ў вочы ў гэтай найбольшай скандынаўскай дзяржаве?

У Швецыю трэба ехаць праз Берлін і Сасніз. На другі дзень стаяла ўжо на палубе вялікага парахода з паромам — «Вікторыя», які з'яўляецца адным з найбольшых параходаў Швецыі. Пад пагодным небам спакойна драмалі воды Катэгацкага праліва.

Трэлеборг — шведскі марскі горад — сустрэў нас чырванню цагляных дамоў, пераважна аднапавярховых. Сцены камяніц тут не тынкуюць, бо пад уплывам вільготнага ветру прасякнутага салёным пылам марской вады тынк хутка абвальваецца. На ўскраінах горада, роўнымі як-бы шпалерамі цягнуцца аднасямейныя домікі абкружаны акуратнымі клумбамі рознаколерных прыгожых кветак.

Мэтай майго падарожжа была мясцовасць Фрылесос, непадалёк горада Гэтэборг. Поезд туды ад'язджаў праз некалькі гадзін. Маючы крыху часу выбралася на шпацыр.

Здзіўлена падумала, што жывуць тут толькі ўдовы і ўдаўцы — заручальныя пярсцёнкі ўсе носяць на левай руцэ, жанчыны носяць нават і па два! (Аказалася аднак, што гэта такі звычай).

— Непрыемна было глядзець на чатырнаццацігадовыя дзяўчынкі з яскрава вымаляванымі губамі і бровамі, з пунсовым манікюрам на пазногцях і трывалай андуляцыяй. У суме аднак, Трэлеборг, гэта тыповы скандынаўскі горад — усюды незвычайна чыста і эстэтычна. Будучы ўжо на станцыі не заўважыла, каб хто-небудзь з людзей кідаў абкуркі ці паперкі ад цукерак на зямлю. (Сорамна было нават і думаць аб нашых станцыях).

Поезд Трэлеборг — Гэтэборг набіраў хуткасці. Дзе-ні-дзе пасярод парослых кустамі і дрэвамі прыбярэжных скал віднеліся адзінокія гаспадарскія забудаванні — зграбныя хаты, памаляваныя на жоўты колер з сінімі або зялёнымі вокнамі. На пасбішчах у спецыяльных загарадзях пасвіліся каровы.

* * *

А вось і вёска Фрылесос. Але ці гэта вёска? Пры слове вёска мы заўсёды ўяўляем сабе адну доўгую вуліцу і ўздоўж яе пахілыя хаты. Фрылесос алнак выглядзіць інакшай. Хаты раскінуты па ўсёй аколіцы — як нашыя калоніі.

Коней у Швецыі параўнальна ёсць вельмі мала — амаль ва ўсіх работах шведскага гаспадара выручаюць машыны. Калі хто не мае якойсь машыны тады «супражыць» з другім гаспадаром, які мае патрэбну сельскагаспадарчую машыну.

Каб жонкі не сварыліся — як можна было дадумацца — шведы рэдка пускаюць на волю курэй. Трымаюць іх у драцяных загарадзях — рацыянальна кормячы. Куркі нясуцца вельмі добра, даюць вялікія яйка. (Ясна, што мае тут уплыў і іх расовасць).

Калі ўжо гутарка аб справах гаспадынь дык цікавым будзе сказаць, што шведкі наогул малакалі гатуюць першае блюда — аддаюць перавагу другім блюдам. За абедам п'юць шмат малака. Прападаюць за селядцамі, якія пры ядзе «густа» пасыпаюць цукрам.

Шведы — гэта тыпова поўночны народ. Нам, славянам, яны нават трохі і нудныя, і незразумелыя.

Маладая, восемнаццацігадовая дзяўчына запрасіла мяне на свае імяніны. Праз цэлы вечар я не пачула, каб госці заспявалі якую песню або патанцавалі ці расказалі які-небудзь анекдот. На гэты вечар былі запрошаны і людзі сямейныя.

У нас прынята, што муж сядае побач сваёй жонкі. Аднак у Швецыі ніхто так не робіць — мужы і хлопцы селі па адзін бок сталоў, а жонкі і дзяўчаты па другі бок. Мужчыны размаўляюць сабе, а жанчыны сабе.

А тут вось нешта на пацяшэнне старым кавалерам. Шведы жэняцца, пераважна, у пажылым веку (ад 30—40 год), калі ўжо здабудзе пэўную жыццёвую пазіцыю, умовы. Дзяцей маюць мала, найчасцей па двое. Але памылкай было-б думаць, што ў шведскіх сем'ях пануе ідэальная згода. Тут працэнт разводаў ёсць бадай самым высокім у Еўропе.

У нядзелю ці ў іншы святочны дзень з Фрылесос можна паехаць аўтобусам у Гэтэборг, зайсці ў рэстаран і выпіць кубачак добрай кавы за 4 кароны. А калі ўжо нарэшце збярэцца крыху ахвоты, то можна і патанцаваць. (За адзін танец—50 орэ ад асобы). У рэстаране ёсць дзве залы — «старая зала» і «новая зала». У «старой» граюць народныя і даўныя танцы, а ў «новай» — усе сучасныя танцы ўключна з рок'н ролем. Тут танцуе моладзь. На вуліцах горада няма хуліганскіх выбрыкаў — мала чуваць пра пакражы. А калі і знойдзецца, які злодзей дык найчасцей аказваецца ім нейкі іншаземец.

А як з жыццём у Швецыі? — спытаеце. — Як усюды, так і тут, ёсць людзі, якія зарабляюць фантастычныя сумы, але ёсць і такія, якія з трудам вяжуць канец з канцом. Кілограм хлеба каштуе да 2,5 карон. Сярэдняй якасці туфлі каштуюць каля 30—35 карон, а 1 кг. масла — 6 кар. 70 орэ.

Каб пераканацца, колькі гэта складзе ў пералічэнні на нашыя залатоўкі, падаю да ведама, што за 1 кар. у нашых банках плацяць да 19 злоты.

У Швецыі наогул не зарабляюць аж так добра, як некаторым нашым людзям здаецца. Аднак швед умее разумна эканоміць і выгодна жыць —добра падумае, пакуль што купіць.

Тут прыдаецца шмат увагі адукацыі чалавека — большасць маладых людзей з усіх сіл стараецца вучыцца. Кожны здольны да жыцця юнак ці дзяўчына стараецца працаваць.

У Швецыі ёсць таксама даволі многа, пераважна, старой беларускай эміграцыі, якая прыехала сюды шукаць хлеба з Віленшчыны, Гродзеншчыны, Браслаўшчыны, Палесся, Беласточчыны. Жыве ў адзіночку — не аб'еднана ў ніякай нацыянальнай арганізацыі.

Пераплятаная шведскімі словамі беларуская мова дзе-ні-дзе чуецца нават у далёкіх вёсках сярод палярнай тундры поўночнай Швецыі.



*Парады гаспадарам*

## Адказ на пытанне

*Грам. Я. ЕВЕЦ з Бельска пытае як зрабіць 1 прац. бардоўскі раствор.*

*Каб зрабіць 1 прац. бардоўскі раствор — бярэм спачатку дзве дзеравяныя пасудзіны (адна 5-літровая другая 10-літровая). (Пасудзіны бляшанай неэмаліраванай ужываць да гэтага не можам).*

*У меншай пасудзіне распускаем 0,1 кг медзявога сярчану (Cu $SO_4$) у 5 літрах вады. Распушчэнне медзявога сярчану можам прыспяшыць распушчаючы яго ў 0,5 літра гарачай вады ў драўлянай пасудзіне, пры чым даліваючы трэба добра размяшаць. У другой — большай пасудзіне, падрыхтоўваем вапеннае малако: 5 літраў вады і 0,1 кг свежай гашанай вапны.*

*Каб апырскваючы не затыкаліся душы апырскваča, малако вапнавае трэба працадзіць цераз ткань, або густое сіта ў большую пасудзіну, даліваючы потым да 5 літраў, а потым памалу мяшаючы выліваем у вапеннае малако раствор медзявога сярчану.*

*Растовраў цёплых не можам з сабою мяшаць*

*Пры мяшанні раствораў трэба мець на ўвазе адзін важны момант, што трэба выліваць заўсёды медзявы сярчан да вапнёвага малака, а не на адварот.*

*Бардоўскі раствор намі падрыхтаваны павінен мець адчын слаба алькалічны (не кіслы), што можам спраўдзіць чырвонай лакмусовай паперкай — намочаная папера ў бардоўскім растворы робіцца сіняя.*

*Калі пры спраўджванні акажацца, што раствор кіслы — трэба дадаць вапны, аж да атрымання рэакцыі слаба алькалічнай. Таксама трэба мець на ўвазе тое, што вапна ў надмернай колькасці шкодзіць для бардоўскага раствору.*

*інж. ВІТАЛІ МІРОН*

# Беларускае нацыянальнае пытанне ў рускай журналістыцы XIX ст.

*(Працяг са стар. 3)*

Змяшчаючы нарыс Шпілеўскага, орган рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў адвяргаў рэакцыйную хлусню аб нібыта духоўнай няпоўнацэннасці, амаральнасці беларускага народа, выступаў супроць адмаўлення беларускай мове літаратурных правоў. Нягледзячы на пэўную ідэалізацыю Шпілеўскім жыцця беларускай прыгоннай вёскі, матэрыялы пра Беларусь на старонках часопіса звярталі ўвагу тагочаснага чытача на цяжкае становішча беларускага народа, які стагнаў пад ярмом соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

З вялікім спачуваннем да беларускага народа адносіўся Н. А. Дабралюбаў. У яго артыкулах і рэцэнзіях часта раздаваўся голас у абароне нацыянальнай годнасці беларусаў, асуджаных рэакцыянерамі на забітасць і пасіўнасць. У 1860 г. «Современник» змясціў вядомы артыкул Дабралюбава: «Рысы для характарыстыкі рускага простанароддзя». У артыкуле вялікі рускі рэвалюцыянер рашуча выступіў супроць фальсіфікатараў ліберальнага і кансерватыўнага лагера, якія прыніжалі беларусаў, паказалі іх бескультурнымі, далёкімі ад ўсялякіх духоўных інтарэсаў.

*Ен пісаў: «Адносна беларускога селяніна справа даўно вырашаная: забіты канчаткова, так што нават страціў ужыванне чалавечых здольнасцей. Не ведаем, у якой ступені ілжывы гэты погляд, таму што не вывучалі спецыяльна беларускага краю, але паверыць яму, зразумела, не можам. Цэлы край так вось узялі і забылі, — як-бы не так!... Ва ўсякім выпадку, пытанне пра характарыстыку беларусаў павінна хутка быць растлумачана працамі мясцовых пісьменнікаў. Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы».*

Адказам на гэтую думку з'явіўся моцны ўздым рэвалюцыйна - дэмакратычнага руху ў Беларусі і Літве, узнікшага ў сувязі з нацыянальна - вызваленчым паўстаннем 1863—1864 гг. у Польшчы. Выдатны правадыр гэтага руху Кастусь Каліноўскі ў рэвалюцыйнай сялянскай газеце «Мужыцкая праўда» выклаў свае погляды на гістарычны лёс беларускага народа Ён высоўваў нацыянальна - вызваленчыя патрабаванні ў цеснай сувязі з задачамі соцыяльнага разняволення сялян.

Падзеі пачатку 60-х гадоў на Беларусі ўзмоцнілі цікавасць рускай журналістыкі да жыцця і барацьбы беларускага народа. У ацэнцы паўстання 1863 года часопісы і газеты размежаваліся на два супрацьлеглыя лагеры. Дэмакратычны друк, а ў першую чаргу «Колокол», «Современник» і «Іскра» выступілі з падтрымкай беларускага рэвалюцыйнага руху, а такія органы друку, як «Северная пчела». славянафільскі «Вестник Юго-Западной России» ці «День» адкрыта апраўдоўвалі рэпрэсійныя меры царызма супраць паўстанцаў і спрыялі праграме гвалтоўнай русіфікацыі беларускага краю. З асаблівай азлобленасцю на беларускіх рэвалюцыянераў нападаў орган царскага ўрада «Северная пчела». Гэты часопіс з вялікім задавальненнем абвясціў аб ссылцы на катаргу групы маладых беларусаў, абвінавачаных у распаўсюджванні «Мужыцкай праўды».

У адказ на гэтае паведамленне адазваўся ў «Колоколе» Герцэн, якога глыбока ўсхваляваў лёс беларускіх рэвалюцыянераў. «Колокол» вельмі жыва рэагаваў на падзеі, якія адбываліся ў Беларусі. Яшчэ напярэдадні паўстання, на старонках часопіса можна было сустрэцца са шматлікімі карэспандэнцыямі і пісьмамі з Беларусі, якія гаварылі аб зверскім абыходжанні памешчыкаў з сялянамі, аб злоўжываннях царскіх улад у адносінах да беларускага народа. А калі ў выніку падаўлення паўстання 1863—1864 г. г. на Беларусі пачалося сільнае наступленне на нацыянальныя правы беларускага народа, «Колокол» неаднойчы выкрываў усе жахі царскай палітыкі. Ён, напрыклад, у 1866 годзе змясціў артыкул Н. Огарова «Продаж маёнткаў у Заходнім краі», у якім гаварылася аб русіфікатарскіх намаганнях царызма ў Беларусі. Огароў падкрэсліваў, што замена польскіх памешчыкаў на Беларусі рускімі не палепшыць долі беларускага народа і што ў аднолькавай меры польская і руская шляхта з'яўляецца ворагам беларускага люду, таму што яна шляхта. Такая пастаноўка нацыянальнага пытання ва ўмовах Беларусі была вынікам дэмакратычнага характару «Колокола».

Зусім зразумела, што гэты беглы агляд беларускага пытання ў рускай журналістыцы XIX ст. не дае поўнага ўяўлення аб хвалюючай нас справе. Тут можна было-б многае дапоўніць і ўдакладніць. Аднак трэба спадзявацца, што гэты кароткі нарыс дапаможа чытачу разабрацца ў тагачасных поглядах рускага друку, дапаможа ўбачыць больш лакладна сапраўдны твар прыяцеляў і ворагаў беларускага народа.

Мгр. МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ.

